

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№5 (187) САКАВІК 2015 ГОД

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## ЦІ НАСТУПІЦЬ ПРАЦВЕРАЗЕННЕ?

**Сітуацыю, якая зараз склалася ў беларускай эканоміцы, можна характаразаваць па-рознаму. У кожным асобным выпадку гэта будзе залежаць ад таго, якія мэты пераследуе аўтар. Адны пра дадзены эканамічны момант і ягоную бліжэйшую перспектыву кажуць, як пра змяншэнне тэмпаў эканамічнага росту ці рэцэсію, другія, як пра эканамічны крызіс, іншыя, як пра эканамічную дэпрэсію і фінансавую дэвальвацыю.**

З інфармацыі даступнай шэраговаму карыстальніку інтэрнет прасторы вядома, што за студзень-люты 2015 года валавы ўнутраны прадукт знізіўся на 0,6%, у прамысловасці зніжка склала 5,8%, а вось складское назапашванне ўзрасло амаль на 6 трлн. Br, грузаабарот зменшыўся на 5,6%. У параўнанні з аналагічным перыядам 2014 г. экспарт тавараў і паслугаў за студзень 2015 года скараціўся на 22,7%, імпарт - на 39,1%.

За студзень 2015 года чысты прыбытак усёй эканомікі склаў мінус 42,85 трлн. Br . Для параўнання, у студзені 2014 было плюс 2,5 трлн. Br. За ўвесь 2014 беларуская эканоміка зарабіла 46,34 трлн. Br. чыстага прыбытку.

Чыстая страта неэфектыўных арганізацый узляцела ў 24,9 раза да 53,74 трлн. Br., а сума стратаў на адну неэфектыўную арганізацыю павялічылася ў 17 разоў. Гэткая сітуацыя падштурхнула прамысловыя прадпрыемствы да масавага пераходу на трохдзённы працоўны тыдзень.

Не станем аднак марнаваць час на пералічэнне сухіх лічбаў тутэйшай эканамічнай статыстыкі. Лепей зірнём на тое вачыма сярэднестатыстычнага спажыўца тавараў і паслуг тым ці іншым чынам задзейнічанага ў беларускай эканоміцы. Тое, што ляжыць навідавоку таксама распавядзе нам пра сапраўдны стан эканомікі і плацежаздольнасці пераважнай колькасці насельніцтва.

Пакупніцкая здольнасьць сярэднестатыстычнага беларуса паменшылася на траціну. Канечне, на 400 даляраў асабліва ўжо не разгорнешся,алежігэтыядэкларованыя грошы даступныя далёка не ўсім працоўным. Да таго ж апошнім часам зноў ўваходзіць у практыку выплата заробкаў таварамі, якія тыя працоўныя выпускаюць. І добра, калі гэты натур заробак можна папросту зесці, бо ў іншым выпадку прыдзецца яшчэ губляць час і нервы на, так бы мовіць, манітарызацыю натуралізаванай аплаты свайго труда. Да параўнання, у студзені 2014 г. даляравы эквівалент сярэдняй беларускай зарплаты быў на ўзроўні 560 "варожых" амерыканскіх грашовых адзінак.

Далёка хадзіць не трэба, зазірніце ва ўласны кашалёк і вы адразу адчуеце, як змянілася ваша эканамічнае становішча на фоне эканамічнай сітуацыі краіны, але для чысціні эксперыменту не забудзьцеся наведаць бліжэйшую да вас прадуктовую краму. Гэта дадасьць вам большай эканамічнай вастрыні і ашчаднасці. Пасля гэткага наведвання вы хутка зразумееце, што нечакана для вас большая частка сямейнага бюджэту пачала сыходзіць на банальнае падтрыманне вашай фізічна-біялагічнай жыццядзейнасці, яшчэ нейкая частка ідзе на камунальнае абслугоўванне і алкаголь. Ну, а астатняе – як прыйдзецца.

Але ж чамусці ніхто ўголас не задаецца заканамерным для дадзенай сітуацыі пытаннем: " З чаго гэта так рэзка абвалілася нашае ўтульнае тутэйшае існаванне?" Толькі што радасна паціралі далоні, удала згуляўшы на расейскім крызісе і панакупляўшы больш за пяцьдзесят тысячаў новенькіх іншамарак, сабраных у Расеі, кошты на якія так прыемна для нас абваліліся. І на табе: Расея крэдытаў не дае, заробкі альбо застылі, альбо абваліліся, паўсюль скрачэньні ці адпачынкі за свой кошт.

Але ж, што дачыцца мяне, за сваё жыццё, я бачыў няшмат людзей, якіх жыццё змусіла па-іншаму зірнуць на сябе і на сваю краіну.

Як гэта ні парадаксальна, але зніжэнне ўзроўню жыцця тутэйшага насельніцтва ў дадзеных гістарычных умовах можа быць на карысць існай тут уладзе. Як гэта зазвычай бывае ў краінах, якія так і не зазналі смаку вольнага жыцця, ва ўмовах " варожага акружэння" народ зазвычай з імпэтам гуртуецца вакол улады, якая праз сваю некампетэнтнасць і давяла яго да гэткага гаротнага стану. Да таго ж, калі падкінуць пакрытую цвіллю ідэю пра адзіную квітнеючую краіну ад Буга да Курыл, то дурыць мазгі гэтаму савецкаму запаведніку можна яшчэ даволі доўга.

У суседняй краіне гэтыя ідэі ўжо авалодалімасамі:"Былыміністрабароны самаабвешчанай «Данецкай народнай рэспублікі» Ігар Стралкоў (Гіркін ) у інтэрв'ю нямецкаму штотыднёваму часопісу Der Spiegel распавёў пра сваю мару аб краіне ў межах 1939 году ( гэта анэксія заходняй Беларусі і Украіны, ўварванне ў Фінляндыю і перспектыва захопу краін Балтыі). Да таго ж 25% расейцаў выступаюць за ўжыванне ядзернай зброі ў канфліктах са сваімі суседзямі. Але ж гэта толькі вяршаліна айсбергу.

Таму эканамічны стан краіны і кожнай асобнай беларускай сям'і будзе залежыць зараз ад таго ці авалодаюць гэтыя самагубныя ідэі пераважнай большасцю беларусаў.

**Алесь Шумскі**



РЫНАК ПРАЦЫ

## ПРАПАНОЎ ПРАЦЫ ЎСЁ МЕНШ

**На рынку працы ў Шуміліне прапаноў стала ў два разы менш і з яшчэ меншымі заробкамі.**

Для параўнання: па стану на пачатак лістапада мінулага 2014-га года ў раёне было 48 вакансій на 94 вольныя месцы. Можа на гэта паўплывала кампанія барацьбы з дармаедамі, якая была аб'яўлена апошнім часам?

Больш за ўсіх - сем свабодных вакансій зараз мае Шумілінская раённая бальніца. Тут востра не хапае чатырох дактароў: стаматолага, анэстэзіёлага, эндакрынолага, афтальмолага (заробкі па 4,5 млн. руб) і трох фельчараў ( заробкі па 4 млн. руб).

Пяць вакансій прапануе Шумілінскі райбыткамбінат. Сюды патрабуюцца галоўны бухгалтар з вышэйшай адукацыяй (аклад 4 млн. 500 тыс. рублёў) ,вадзіцель, цырульнік, шавец, кравец - усім абяцаюць заробкі за месяц па 2 млн. 200 тыс рублёў.

Па ранейшаму назіраецца дэфіцыт рабочых рук на сельгаспрадпрыемстве "Райаграсервіс". На сённяшні дзень у гэту арганізацыю запрашаюцца аператар машыннага даення (2,5 млн.), трактарыст (2,3 млн.), інжынер па ахове працы з вышэйшай адукацыяй (2,5 млн.), вадзіцель (2,3 млн.), галоўны інжынер ( 3,5 млн. ).

Прадстаўніцтва "Белдзяржстраху" у Шумілінскім раёне чакае на пасады чатырох страхавых агентаў (у Шуміліна, Обаль, Каўлякоўскі і Дабейскі сельсаветы – усім зарплата па 2,2 млн. руб.

У аддзеле адукацыі спорту і турызму Шумілінскага райвыканкама ёсць свабодныя вакансіі педагога-псіхолага ( 0,5 стаўкі аграгарадок Слабада 2,9 млн.), тры выхаваццелі дашкольнай установы (аграгарадок Мікіціха, г.п.Оболь, дзіцячы сад №4 Шуміліна), галоўны бухгалтар патрабуецца ў аддзел ідэалагічнай работы па справам моладзі з акладам у 3,2 млн.

Як бачна, самы максімальны заробак, што існуе на шумілінскім рынку працы, прапануюць дактарам у райбальніцы і бухгалтару на райбыткамбінаце - 4,5 мільёнаў рублёў. Найніжэйшыя плацяць па-ранейшаму на тым жа райбыткамбінаце цырульнікам, шаўцам і краўцам - 2, 2 мільёны.

Наогул у раёне прапануюцца вакансіі з заробкам у два разы менш, чым афіцыйны сярэдні заробак у раёне за люты – 4 115 135 рублёў. І гэта пры тым, што сярэдні заробак у краіне за лістапад склаў 6 129 105 рублёў, а па Віцебшчыне, якая на перадапошнім месцы сярод абласцей, – 5 336 309 рублёў.

**Ян Вайтовіч**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

## НА ДАРОГАХ РАЙЦЭНТРА

**Дарога ў цэнтры Шуміліна па вуліцы Ленінскай відавочна патрабуе рамонту. Ямкі, выбоіны, патрэсканыя асфальт, робяць гэтую вуліцу не толькі непрывабнай, але і небяспечнай для кіроўцаў і пешаходаў.**

Звычайна вуліцам прысвойваюць імёны выбітных людзей, каб ушанаваць іх памяць. Пры гэтым з асаблівай увагай ставяцца да тых, хто ўпісаў свой радок у гісторыю роднага краю. Наўрад ці расійскі "дзядуля Ленін" зрабіў што небудзь карыснае для адраджэння Шумілінышчыны, ды і ў Беларусі ён ніколі не быў.

Аднак, нягледзячы на савецкія назвы вуліц раёна, безумоўна, неабходна своечасова займацца іх добраўпарадкаваннем.

Пасля зімы дарогі ў нашых кліматычных умовах патрабуюць пэўнага, хоць бы касметычнага рамонту. Перапады тэмпературы паветра, і марозік, і вада, патрапіўшы ў разломы і расколіны на асфальце, замярзае і "ірве" дарожнае пакрыццё. А ў дадатак - сотні аўтамабіляў, якія разбіваюць і без таго патрэсканы асфальт.

У выніку маем тое, што маем: выбоіны і расколіны на скрыжаванні дарог каля крамы "Ганна", ямкі на дарозе і патрэсканы асфальт насупраць рэдакцыі раённай газеты "Герой працы", выбітае пакрыццё дарогі на скрыжаванні каля крамы "Універсам". А ямы, лужыны і гразь – ужо звыклая карціна на стаянцы для аўтамабіляў каля раённай аптэкі і крамы "Універсам". На гэтым месцы асфальт пакуль яшчэ не прапаякылі, ды і падсыпку пяском са шчэбенем не праводзілі.

**Алесь Прыбярэжны**

ДУХОЎНАЯ СПАДЧЫНА

## ХРАМ ЗА АГУЛЬНЫЯ ГРОШЫ

**Амаль 900 мільёнаў рублёў было сабрана на храм Свяціцеля Мікалая Цудатворца. Новы праваслаўны храм у Шуміліне будуецца ўжо два гады за сродкі прыхаджан, прадпрыемстваў, сельгасарганізацый, прадпрымальнікаў і мецэнатаў.**

У 90-я гады мінулага стагоддзя тут хацелі ўзвесці гандлёвы цэнтр. Аднак з-за недахопу сродкаў будоўля замарозілася. Канструкцыі разабралі. У цэнтры гарадскога пасёлка утварылася

*(працяг на стр. 2)*

НАВІНЫ КУЛЬТУРЫ

# ЮНАЯ ЦЫМБАЛІСТКА СТАЛА ЛАЎРЭАТАМ

**З дыпломам лаўрэата вярнулася з Рэспубліканскага конкурсу юных музыкантаў «Музыка дзіцячай душы» другакласніца з Шуміліна Стэла Шылава. Фінал прайшоў у панядзелак у сталічнай канцэртнай зале "Верхні горад".**

Гэты форум праводзіўся пад эгідай Беларускага дзіцячага фонду ўжо 27-ы раз, і Стэла на сённяшні дзень стала адзінай прадстаўніцай Віцебшчыны сярод пераможцаў і прызёраў. Яна выступала ў намінацыі «Інструментальная музыка» у малодшай узроставай групе і проста заваявала прафесійнае журы, якое ўзначальваў прарэктар Акадэміі музыкі Пётр Дударэнка, выкананнем кампазіцый на сваіх любімых цымбалах.

Конкурс гэты не зусім звычайны. Яго задача - падтрымка сірот і дзяцей з няпростым лёсам. Так атрымалася, што над Стэлай ажыццяўляе апеку бабуля - Галіна Кошалева. Дзяўчынка нягледзячы ні на што любіць сваіх тату і маму, але прызнаецца, што цяпер ёй адчуваецца больш камфортна.

Вядома, поспеху б не было без выкладчыка Шумілінскай дзіцячай школы мастацтваў Алены Скорынавай, якая адшукала гэты юны талент яшчэ ў дзіцячым садзе і ўклала душу ў развіццё прыродных творчых дадзеных. А яшчэ вельмі дапамог з транспартам аддзел адукацыі, спорту і турызму райвыканкама. Бо цымбалы - даволі груваскі інструмент. Для ўдзелу ў конкурсе на выпадак, калі, не дай Бог, лопне струна, у Мінск трэба было везці два асобніка.

Гэта не першая ўзнагарода Стэлы. У гэтым годзе яна ўжо стала лаўрэатам І Міжнароднага конкурсу «Свет музыкі», які праводзіцца ў Чэлябінску. Аднак юная зорачка абсалютна не схільная да маніі велічы і нягледзячы на тытулы, якія патрабуюць вельмі сталай працы і самаразвіцця, яшчэ застаецца дзіцем і не супраць пасля заняткаў пагуляць у цацкі, асабліва з каханай лялькай, з якой не растаецца нават у сне.

**Vitvesti by**

ЗДАРЭННІ,КРЫМІНАЛ

# НЕ ПАЛІЦЬ СУХУЮ РАСЛІННАСЦЬ!

**24 сакавіка начальнік Шумілінскага РАНС Андрэй Сасновіч прыняў удзел у сесіі Обальскага сельскага Савета, на якой прысутнічала 15 дэпутатаў. Прысутныя былі былі азнаёмленыя з аператыўнай абстаноўкай і гібеллю людзей у раёне.**

Сасновіч звярнуў увагу на недапушчэнне пакідання дзяцей адных без нагляду, прывёў прыклады гібелі дзяцей. Акрамя таго, звярнуў асаблівую ўвагу дэпутатаў на выпальванне сухой расліннасці ў населеных пунктах раёна, вобласці і рэспублікі, у выніку чаго гараць не толькі будынкі, але і самі вінаватыя атрымліваюць розныя апёкі.

Андрэй Іванавіч нагадаў прысутным пра тое, што згодна з ст.15.57 Кодэкса РБ аб адміністрацыйных правапарушэннях за выпальванне сухой травы, а таксама іржышча і пажніўных рэштказ на карані на палях або непрыняцце мер па ліквідацыі выпальвання на зямельных участках накладаецца штраф у памеры ад 10 да 40 базавых велічынь, на сённяшні дзень - гэта сума ад 1,8 млн. да 7,2 млн. руб.; за распальванне вогнішчаў у забароненых месцах прадугледжана папярэджанне або накладанне штрафу ў памеры да 12 базавых велічынь. Так, 17 сакавіка за выпальванне сухой расліннасці каля жывёлагадоўчай фермы в.Грабніца, да адміністрацыйнай адказнасці ў памеры 10 базавых велічынь прыцягнутая загадчыца дадзенай фермы.

**Сяржук Горкі**

ВОДНЫЯ РЭСУРСЫ

# ПАЧЫНАЕЦЦА НЕРАСТ!

**Паводле новай рэдакцыі Правіл вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства ў Віцебскай вобласці забарона будзе дзейнічаць з 10 красавіка па 8 чэрвеня.**

У перыяд забароны дазваляецца рыбачыць адной вудай з адным кручком або адным спінінгам, аснашчаным штучнай прынадай, з адным адзінарным, двайным ці трайным кручком у светлы час сутак з берага (без заходу ў ваду) альбо з лёду.

Па новых Правілах рыбачыць цяпер можна і з штучных збудаванняў (за выключэннем чыгунных і іншых мастоў, плацін, шлюзаў, помпавых станцый і іншых гідратэхнічных збудаванняў, у дачыненні да якіх устаноўлены абмежаванні і забароны на гаспадарчую і іншую дзейнасць, і на адлегласці бліжэй за 50 метраў у абодва боку ад іх). А вось маламерных судамі па-ранейшаму ў перыяд забароны карыстацца забаронена.

За кожную незаконна здабытую асобіну рыбы парушальнікі Правілаў абавязаныя будуць кампенсаваць прычыненую прыродзе шкоду, які ў час забароны вылічваецца ў трохразовым памеры. Напрыклад, шчупак або лешч абыдуцца браканьерам ў 1. 620. 000 рублёў, а лінь або язь - у 3.240.000 рублёў. Акрамя таго, парушальнікі могуць быць аштрафаваныя на суму да 50 базавых велічынь або прыцягнутыя да крымінальнай адказнасці, калі памер шкоды перавысіць 100 базавых велічынь.

**gosinspekciya.gov.by**

ДУХОЎНАЯ СПАДЧЫНА

*(пачатак на стр. 1)*

непрывабная пустка.

Тры гады таму благачынны праваслаўных цэркваў Шумілінскага раёна пратаіерэй Фёдар Пучынскі прыйшоў на прыём да старшыні райвыканкама Уладзіміру Куранннога і пераканаў яго пабудаваць на гэтым месцы храм:

– Праваслаўны храм у Шуміліне быў узведзены яшчэ ў 1866 годзе, – распавядае айцец Фёдар. – Але ў 1944-м нямецка-фашысцкія захопнікі разабралі яго на абарончыя збудаванні. З тых часоў праваслаўных цэркваў у Шуміліна не было. Не шанавала веру і савецкая ўлада. Дастаткова ўспомніць, што адзін з калгасаў у раёне насіў назву "Бязбожнік".

У апошнія гады, на шчасце, сітуацыя змянілася. Зараз у храме Свяціцеля Мікалая Цудатворца пабудаваныя сцены, устаноўлены вокны, узняты малы купал. Застаецца дабудаваць дах, узняць вялікі купал і выканаць ўнутранае аздабленне.

**ТУТ BY**

ЦЯЖКАЕ ЗЛАЧЫНСТВА

# ДВУМ ЖЫХАРАМ ПАГРАЖАЕ СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ

**Аддзел СК па Віцебскай вобласці завяршыў следства па справе ў дачыненні да двух раней неаднаразова судзімых жыхароў Шумілінскага раёна.**

Іх абвінавачваюць у здзяйсненні дзёрзкіх разбойных нападаў на мясцовых жыхароў у Бешанковіцкім і Віцебскім раёнах.

Афіцыйны прадстаўнік УСК па Віцебскай вобласці Іна Гарбачова распавяла, што ўначы 22 ліпеня мінулага года ў праваахоўныя органы паступіла паведамленне аб тым, што ў адзін з дамоў вёскі Берастні Бешанковіцкага раёна ўварваліся двое невядомых у масках з прарэзамі для вачэй і рота.

Тыя, хто нападаў, выкарыстоўваючы драўляныя прадметы, накшталт бейсбольных біт, збілі мужа і жонку, якія пражывалі у доме, і звязалі іх. Пасля чаго выкралі 1 млн. рублёў, ювелірныя ўпрыгожванні і схаваліся. У выніку нападу пацярпелая доўгі час знаходзілася на лячэнні, а яе муж памёр ад атрыманых траўмаў. У гэтыя ж суткі аддзелам СК была ўзбуджаная крымінальная справа па арт. 207 КК (разбой).

Уначы 30 ліпеня аналагічнае злачынства было зарэгістравана ў вёсцы Подлазнікі Віцебскага раёна. Двое невядомых у масках з прарэзамі для вачэй і рота з драўлянымі палкамі ў руках, выставіўшы аконнае шкло веранды, пранікілі ў дом, дзе з ужываннем гвалту, небяспечнага для жыцця, завалодалі маёмасцю, якія належала сямейнай пары. Нападнікі выкралі грошы (не менш за 300.000 рублёў), залатыя ўпрыгожванні і мабільны тэлефон.

Гаспадару дома былі нанесены цялесныя пашкоджанні, ад якіх ён праз тыдзень памёр.

Па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства былі затрыманыя двое мужчын 1973 і 1976 гадоў нараджэння, якія раней сумесна адбывалі пакаранне ў папраўчай установе. Абодва раней неаднаразова судзімыя за ўчыненне карыслівых злачынстваў. У момант затрымання ў асабістых рэчах падазраваных аказалася выкрадзеная маёмасць.

Ацэнка канфіскаваных з месца здарэння рэчыўных доказаў, аналіз сітуацыі, якая аператыўнай абстаноўкі, відавочная падабенства ў характары злачынных дзеянняў, выкарыстанне аднолькавых прылад злачынства дазволілі следчым і аператыўным супрацоўнікам устанавіць версію пра тое, што абодва разбойных напады здзейсненыя аднымі і тымі ж асобамі.

Дзве крымінальных справы для далейшага расследавання з раённых падраздзяленняў былі перададзеныя ў абласное ўпраўленне СК.

На першапачатковым этапе расследавання было ўстаноўлена, што абвінавачаныя, ажыццяўляючы злачынны намер, перад учыненнем злачынства выраблялі падрыхтоўчыя мерапрыемствы: выраблялі з дрэва прылады злачынства, майстравалі прадметы маскіроўкі, адшуквалі дамы, у якіх, на іх думку, маглі быць значныя грашовыя назапашванні. У абодвух выпадках абвінавачаныя памыліліся ў сваіх здагадках і здзейснілі напады на сямейныя пары сярэдняга дастатку.

Па крымінальнай справе завершаны ўвесь комплекс следчых дзеянняў. Сабрана дастатковая колькасць доказаў, якія пацвярджаюць карыслівы матыў злачынства. Праведзена больш за 30 экспертных даследаванняў, у тым ліку судова-псіхіятрычная экспертыза, па выніках якой абвінавачаныя з'яўляюцца ў стане свядомасці.

Падчас здзяйснення злачынстваў абодва абвінавачаных знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення.

Дзеянне абвінавачаных кваліфікаваныя па прыкметах складаў злачынстваў, прадугледжаных п.п. 6, 12, 15, 16 ч. 2 арт. 139 КК (забойства, спалучанае з разбоем, здзейсненае групай асобаў з асаблівай жорсткасцю). Па гэтым артыкуле абвінавачаным пагражае пазбаўленне волі на тэрмін ад васьмі дванаццаці гадоў, або пажыццёвае пакаранне, або смяротнае пакаранне, а пры наяўнасці абставін, прадугледжаных пунктам 12 - з канфіскацыяй або без канфіскацыі маёмасці. Таксама іх вінавацяць па ч. 3 арт. 207 КК (разбой, дасканалы з прычыненнем цяжкага цялеснага пашкоджання). Гэты артыкул прадугледжвае пазбаўленне волі да пятнаццаці гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

У ходзе следства мера спынення не змянялася. З моманту затрымання па цяперашні час абвінавачаныя ўтрымліваюцца па вартай.

Крымінальная справа перададзена пракурору для накіравання ў суд.

**"Салідарнасць".**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіце бясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

***• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

ДЗЕНЬ ВОЛІ

# НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ —ГЭТА...

**25 сакавіка – Дзень Волі – гадавіна Беларускай Народнай Рэспублікі. Менавіта тады ў 1918 годзе была абвешчана незалежнасць БНР ад Расійскай імперыі. Легендарное эссе «Независимость – это…» было написано Владимиром Орловым еще в 1990 году.**

**Незалежнасьць —гэта...**

**НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ** — гэта калі ты зьявісься на сьвет у радзільні, дзе няма самых стэрыльных на зямлі савецкіх прусакоў, затое ёсьць аднаразовыя шпрыцы й пялюшкі.

**НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ** — гэта калі твой бацька пойдзе ў загс, каб атрымаць дакумэнт, што ты сапраўды нарадзіўся і што цябе назвалі ў гонар дзеда Рыгорам, і кабета, якая сядзіць там, спакойна выпіша яму гэты дакумэнт, а ня выцягне са стала "Справочник личных имен народов СССР" і ня будзе, размахваючы ім, гістэрычна тлумачыць твайму бацьку, што ён можа без праблемаў назваць сына Файзулой ці нават Мамаем, а вось Рыгорам — ня можа, бо такога імя проста не існуе ў прыродзе (а существует нормальное человеческое — Григорий).

**НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ** — гэта калі ты пойдзеш у школу і цябе будуць вучыць на тваёй мове (а дзяўчынку Гражынку, якая табе падабалася ў дзіцячым садку, — на яе мове, а твайго суседа хлопчыка Мішу, тату якога завуць Ісакам, — на ягонай, а другога твайго суседа хлопчыка Алёшу, бацькі якога прыехалі сюды, бо ў іхнім горадзе на Волзе, каб купіць малому малака, трэба займаць чаргу а пятай гадзіне раніцы, — на ягонай). Цябе будуць вучыць на тваёй мове, і дзеля гэтага тваім тату й маме ня трэба будзе ўсё лета зьбіраць па кватэрах заявы бацькоў, якія ня тое каб не хацелі вучыць сваіх дзяцей так, як твае тата й мама, а проста ніколі пра гэта ня думалі, бо вырасьлі пры інтэрнацыяналізьме. І гэтыя заявы ня трэба будзе губляць тры разы дырэктару і два — сакратарцы, і ў першы верасьнёвы дзень ты не пачуеш на ўрачыстай лінейцы, што "год от года хорошеет материально-техническая база нашей школы", а прыйшоўшы ў сваю клясу, не даведаесься, што дзякуючы няўхільнаму клопату партыі і ўраду ў вас на ўсю клясу толькі ўсяго лемантар і дзьве "матэматыкі" на роднай мове.

**НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ** — гэта калі твая дружына ня будзе змагацца за права насіць імя Паўліка Марозава ці Аляксандра Мясьнікова, бо ўсе вы цудоўна ведаеце, як любіў свайго тату Паўлік і як любіў беларусаў Мясьнікоў.

**НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ** — гэта калі ты будзеш студэнтам і на лекцыі па вышэйшай матэматыцы твой смуглявы раўналетак з Мадагаскару, які вучыцца за грошы сваёй, а не тваёй краіны, нахінецца да цябе й запытае, што значыць слова "імавернасьць", і ты па-француску растлумачыш яму.

**НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ** — гэта калі ты будзеш служыць у войску не далей за памежныя горад ці вёску твае зямлі, затое табе ніколі не загадаюць фарбаваць траву й прыбіраць тэрыторыю "вот отсюда и до обеда". У нядзелю ты зможаш прыехаць да бацькоў ці да свае дзяўчыны, затое ніхто не назаве цябе "бульбашом", а твайго сябра — "черножопым" за тое, што вы думаеце й гаворыце ў сьне па-свойму, і табе ніколі не загадаюць гастрыць сапёрную рыдлёўку, каб акапацца ў Баку ці ў Тбілісі.

**НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ** — гэта калі твая дзяўчына кажа, што хоча на выхадныя ў Вену, і ты з чыстым сумленьнем абяцаеш ёй, што ў суботу вы вып`яце кавы насупраць палацу Шонбрун, і ведаеш, што перад вашай вандроўкаю ніхто ня будзе высьвятляць у цябе, ці быў ты ў дзяцінстве габрэем, а таксама, ці быў ты раней за мяжою і калі вярнуўся адтуль, дык зь якой мэтай.

**НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ** — гэта калі на Дзяды, у Дзень памяці продкаў, ты ідзеш на магілкі, каб паставіць там свечку і пакласьці кветкі, а ня стаць удзельнікам выпрабаваньня балёнчыкаў з нэрвова-паралітычным газам ці новае мадэлі гумовага дручка.

**НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ** — гэта калі твой сын прынес са школы пяцёрку па гісторыі і ты хваліш яго за гэтую пяцёрку, бо ведаеш, што ён атрымаў яе не па тым прадмеце, дзе вучаць пра Лядовае пабоішча і перамогу калектывізацыі, а па тым, дзе вучаць пра Грунвальдскую бітву, якая ўратавала твой народ ад сьмерці, і кажуць праўду пра ўладу, што расстраляла твайго дзеда й задушыла голадам тваю бабулю.

**НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ** — гэта калі да цябе завітае беларускі сьпявак зь Нью-Ёрку, і ты вып`еш зь ім добрую чарку вішнёўкі, і пасьля ветлівыя дзядзькі ў цывільным не запрапануюць табе падрабязна напісаць, дзе й што вы пілі й каго пры гэтым лаялі.

**НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ** — гэта калі ты пазбаўлены магчымасьці чуць, як твой прэзыдэнт вучыць з экрану суайчыннікаў: "Хто как хаціт, той так і гаварыт", бо твой прэзыдэнт — чалавек пісьменны і хоць адну мову ўсё ж ведае.

**НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ** — гэта калі з тэлеперадач і газэтаў раптам зьнікаюць лісты нястомна-таямнічых вэтэранаў і вусьцішныя паведамленьні пра нацыяналістаў і экстрэмістаў з народных франтоў, якія нават уначы ня сьпяць, а распальваюць паміж табой, Алёшам і Мішам, тату якога звалі Ісакам, а таксама Гражынаю, якая даўно ўжо твая жонка, міжнацыянальную варожасьць, каб учыніць сярод вас крывавую разьню й пусьціць пад адхон цягнік перабудовы.

**НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ** — гэта калі ніхто ня страшыць цябе, што твой народ ня зможа выжыць безь вялікага старэйшага брата, бо ня мае сваіх баксітаў ці алмазаў, і ты разумееш, што зусім дарэмна шкадаваў гаротных галяндцаў ці бэльгійцаў, якія ня маюць ні баксітаў, ні алмазаў, ні нават старэйшага брата.

**НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ** — гэта калі велізарныя аўтафуры з надпісам "Центровывоз" (ці бачыў ты хоць раз такія фуры, дзе было б напісана "Центроввоз"?) падрулююць не да чужых, а да нашых крамаў.

**НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ** — гэта калі раптам высьветліцца, што сьветлыя галовы ёсьць і ў нас, і калі — крый Божа! — выбухне завод ці прычыніцца якое іншае ліха, ня трэба будзе чакаць, пакуль прыедзе камісія з маскоўскіх разумнікаў.

**НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ** — гэта калі на Божай пасьцелі ведаеш, што пасьля таго, як ты памяняеш гэты сьвет на лепшы, на месцы царквы ці касьцёлу, дзе цябе хрысьцілі і дзе ты вянчаўся, ня выкапаюць сажалку з брудным лебедзем і не пабудуюць басэйн імя XX-VIII зьезду КПСС, а могілкі, дзе будуць спачываць твае косьці, не зьнясуць і неператвораць у закіданы пустымі пляшкамі парк культуры й адпачынку імя таварыша Гарбачова.

**НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ** — гэта...

**НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ** — гэта калі ад нараджэньня да скону пачуваесься сваім чалавекам на сваёй зямлі.

Я веру, што калі-небудзь так будзе.

Бо йначай проста ня варта жыць.

**Люты, 1990**

АНТЫКАРУПЦЫЙНАЯ КАМПАНІЯ

# ПЛЮСЫ І МІНУСЫ КАРУПЦЫІ

**Хабар — гэта дывідэнды, якія чыноўнікі атрымліваюць ад сумеснага валодання дзяржаўнай уласнасцю. Сучасная беларуская эканоміка функцыянуе ў квазірынкавым асяроддзі, і карупцыя — яе важнейшы складовы элемент.**

Выпадкі публічнага дыялогу паміж уладай і грамадствам у Беларусі можна пералічыць па пальцах. Такая ў нас склалася традыцыя. Аднак пачатак 2015 года прэтэндуе на тое, каб яе парушыць.

29 студзеня сустрэча адзінага палітыка (АП) з прадстаўнікамі беларускіх і замежных СМІ прайшла ў рэжыме дыялогу. У рэдакцыі «Савецкай Беларусі» дыялог працягнуўся. Прадстаўнікі дзяржавы, праўладных і апазіцыйных партый абмяняліся думкамі на тэму барацьбы з карупцыяй.

**Статыстыка поспехаў**

Карупцыйная тэма для працягу дыялогу абраная невыпадкова. Ва ўладзе і ў расколатым беларускім грамадстве наконт гэтага пытання існуе кансенсус. Практычна ўсе згодныя з тым, што «гэта зло» варта «выпальваць калёным жалезам».

Карупцыйная тэма нязменна прыцягвае ўвагу «шырокай грамадскасці». Перафразуючы вядомую прыказку, вазьму на сябе смеласць сцвярджаць, што нішто нас (простых людзей) так не радуе, як гора вялікага начальніка, абвінавачанага ў карупцыі. «Людзей, — адзначае палітолаг Уладзімір Пастухоў, — не так раздражняе карупцыя, колькі ўзбуджае яе вынік». Таму антыкарупцыйныя поспехі ўлады ўспрымаюцца як шоў.

Аднак вернемся ў рэдакцыю «СБ» і паслухаем інфармацыю начальніка ўпраўлення па барацьбе з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю Генпракуратуры Ігара Грэйбо. Яна адназначна сведчыць пра поспехі. Мяркуйце самі. Карупцыйныя злачынствы ў агульнай колькасці зарэгістраваных з года ў год складаюць не больш за 2,5 – 3%. Сацыёлагі фіксуюць зніжэнне вастрыні карупцыйнай праблемы ў грамадстве: у 2005 годзе карупцыя турбавала 68% беларусаў, у 2014 — 47%.

Дзяржава не адчувае дэфіцыту «калёнага жалеза» і пастаянна пускае яго ў ход: «Паводле дадзеных 2013–2014 гадоў, калі ў агульнай структуры крымінальных пакаранняў пазбаўленне волі склала 24%, то за карупцыйныя злачынствы — 45%. За атрыманне хабараў 70% асуджаных прызначана пазбаўленне волі».

Пасля такога рапарту перад штатнымі барацьбітамі з карупцыяй хочацца зняць капялюш. Незразумела толькі, чаму паводле дадзеных Transparency International па ўзроўні карупцыі Беларусь у 2002 годзе была на 32-м месцы, а сёння — на 122-м. Ігар Грэйбо тлумачыць такі скачок дастаткова крытычным стаўленнем міжнародных экспертаў да Беларусі. Адпаведна, пры ацэнцы ўзроўню карупцыі ў іншых краінах крытычны падыход змяняецца лаяльным. Ці я нешта не так зразумеў?

**Хто сёння пасяховы?**

Пра ролю асабістых сувязяў у функцыянаванні беларускай мадэлі мне даводзілася пісаць неаднаразова. Без іх і кроку нельга ступіць ні на міждзяржаўным узроўні, ні на побытавым. Паслухайце любую прэс-канферэнцыю АП. Для яго беларуска-расійскія адносіны — гэта яго асабістыя адносіны з Пуціным. І так па любым пытанні.

А цяпер з дапамогай эканаміста Уладзіслава Іназемцава звернем свой погляд на ніжні ўзровень сацыяльнай іерархіі: «Пачынаючы з першых постсавецкіх гадоў стала складацца грамадства, у якім чалавек мог дамагчыся практычна ўсяго, але ва ўмовах, калі ён дзейнічаў індывідуальна і не імкнуўся абапірацца на грамадскую кансалідацыю. Калі вы хочаце вырашыць нейкую праблему, прасцей даць хабар, дамовіцца пра выключнае стаўленне або проста заплюшчыць вочы на тыя ці іншыя правілы, але толькі не спрабаваць усумніцца ў іх законнасці і не патрабаваць іх змены».

Іназемцаў піша пра расійскае грамадства. Але наколькі апраўданы перанос яго высноваў на беларусаў? Адкрыем часопіс «Сацыялагічны альманах» за 2013 год, які выдае Інстытут сацыялогіі НАН РБ. На старонцы 164 знаходзім надзвычай цікавую інфармацыю. На пытанне: «Хто сёння мае поспех у беларускім грамадстве?» у тройцы лідараў апынуліся наступныя варыянты адказаў: крымінальна-мафіёзныя структуры (74,3%); той, хто займае высокую пасаду, знаходзіцца ва ўладзе (61%) і чалавек з сувязямі (45,1%). А ў ніжняй частцы шорт-ліста дабрабыту па-беларуску апынуліся прадпрымальны, дзелавы (30,2%); высокакваліфікаваны, таленавіты (6,7%) і працавіты (4,7%).

Слова «карупцыя» ў пытанні і варыянтах адказаў не фігуруе. Але якім чынам могуць дасягаць дабрабыту сябры крымінальна-мафіёзных структураў, і чаму на трэцім прызавым месцы апынуўся чалавек з сувязямі?

У квазірынкавай эканоміцы карупцыйныя механізмы адыгрываюць ролю гарызантальных сувязяў, без якіх не можа функцыянаваць ні грамадства, ні дзяржава. «Калі раптам у нейкі Дзень гневу, — справядліва заўважае палітолаг Станіслаў Бялкоўскі, — карупцыя будзе скасаваная (цудоўным чынам, паколькі іншага варыянту пакуль не бачна), апарат дзяржкіравання згорнецца, бо знікне сам сэнс яго існавання».

Як адаб'ецца скасаванне карупцыі на насельніцтве?

*(працяг на стр. 3)*



РАСЕЙСКА-УКРАІНСКІ КАНФЛІКТ

# РОССИЯ НЕ ОСТАНОВИТСЯ НИ ПЕРЕД БЕЛАРУСЬЮ, НИ ПЕРЕД ПОЛЬШЕЙ…

**Почему Леонид Кравчук, если бы сейчас руководил Украиной, прежде всего «поехал бы в Москву к Путину» – все в эксклюзивном интервью первого президента Украины белорусской Свободе.**

**Россия и война**

***Анна Соусь***: Леонид Макарович, в прошлом году вы говорили, что, несмотря на 80-летний возраст, готовы взять в руки оружие и воевать за Украину. С каким настроением вы сейчас каждый день смотрите новости, видите, например, кадры, когда украинцы становятся на колени вдоль дорог, по которым везут погибших на Донбассе военнослужащих?

***Леонид Кравчук:*** Я человек, в жизни которого были и хорошие, и плохие, и радостные, и драматические дни, но я считаю, что такого драматического состояния нашего государства и нашего народа за свою политическую карьеру еще не было. Это самый сложный период нашей украинской истории. Конечно, боль. Конечно, разочарование. Конечно, это вещи, которые не укладываются в голове.

Я хочу вам привести один разговор, который у нас была на заседании СНГ в Москве. Сидели за одним столом все главы государств СНГ и проводили пресс-конференцию. И кто-то из журналистов задал вопрос Ельцину и мне, что теперь, мол, в Европе начинают говорить, и по нашим тв-каналам начинают говорить, что возможная война между Россией и Украиной ... Ельцин не дослушал этого вопроса, очень жестикулярно указал на висок и сказал: «Вы что, с ума сошли? Какая война? Можно ли даже мысль допустить о том, что возможна война России против Украины, что возможны военные конфликты ». Это, говорил Ельцин, против нашей истории, и стал говорить о Переяславской Раде, про наши братские отношения. Так, могут быть различные противоречия, но о войне говорить - это безумие. Безумие! Журналист смотрит на меня, а я говорю, что полностью согласен с Борисом Николаевичем, это действительно невозможно. Вот, как тогда было, и как мы смотрели на ту сложную ситуацию, и как считали возможным ее решать.

А сегодня уже никто даже не удивляется, почему Россия фактически открыто ведет агрессию, ведет войну против Украины. Анексировала Крым и унесла фактически уже часть территории, часть Донбасса. Никто не удивляется. Идет война. Россия ведет информационную и фактическую войну.

**О минских договорах**

***Анна Соусь:*** Недавно вы заявили, что переговоры в Минске унижают Украину, и что если переговоры не дают результатов, то нужно менять их формат. Поясните, пожалуйста. И сейчас бы вы так же сказали?

***Леонид Кравчук:*** Да, я повторил бы эти слова и вот почему. Потому что был Будапештской меморандум, когда США, Великобритания и Россия (к ним присоединились Франция и Китай) приняли меморандум, в котором записали, что они гарантируют Украине территориальную целостность, неприкосновенность и суверенитет, потому что она добровольно отказалась от ядерного оружия. Такой меморандум есть и сегодня. Никто его не отменял. Россия, правда, от него отказалась, но это не значит, что должны отказаться США и другие государства.

Я задаю вопрос, почему никто даже не поднимет вопрос, не инициирует хотя бы международную конференцию, или международную встречу, чтобы напомнить миру и себе о том, что Украине дали такие гарантии. Даже если мы просим рассмотреть вопрос о предоставлении Украине не наступательного, а оборонительного оружия, чтобы отстоять свою свободу и независимость, нам говорят: «Нет, это может не понравиться России». Тогда о чем мы говорим, о каких международных соглашениях? Если Россия их не выполняет, тогда никто не выполняет. Зачем их принимать?

Тем более минские соглашения подписали люди, не наделенные высокой государственной властью. Такие вещи, как независимость Украины, ее территориальная целостность, должны подписывать президенты - Порошенко, Путин. Хотя бы вдвоем подписать, чтобы было понятно, о чем идет речь. Если нужно, чтобы этот вопрос рассмотрело международное сообщество, давайте рассмотрим в рамках Будапештского меморандума. Мы отказались очень легко от Женевского формата, поговорили о нормандском формате, поговорили обо всех форматах, а опираемся только на минский протокол, на минские соглашения, которые подписаны людьми, не наделенными высокой государственной властью, и сепаратисты плюс ко всему. Я к такому документу не имею большой веры, потому что это не тот документ, который выходит на высшие эшелоны власти. Но теперь я вижу, что какой бы документ мы не приняли, Россия его выполнять не будет.

Если мы соберем международную конференцию в рамках Будапештского меморандума, Россия туда не поедет. Она откажется принимать участие. Будет очередной политико-пропагандистский информационный акт против конкретных виновников, который не дает никаких конкретных результатов, потому что не влечет за собой санкций. Санкции сейчас применяются экономические в основном. Я думаю, что сказать, что они не действуют, было бы неправильно. Но, наверное, эти санкции нужно усовершенствовать, чтобы увеличить давление на Россию. Другого пути я не вижу.

Если Россия добровольно не хочет отказаться от агрессии и раздербанила территорию Украины, то, естественно, надо определенные шаги делать. Но мы должны сами также проводить реформы, крепить оборонную силу, объединять людей вокруг защиты своей родины. Никто за нас этого не сделает. Это все в рамках украинского общества. Мы никого и не просим на нас работать. Мы просим в этой ситуации нам помочь, поскольку мы имеем на это право. Это право зафиксировано в международном меморандуме.

**Как разговаривать с Путиным**

***Анна Соусь***: Если бы вы сейчас управляли Украиной, что бы вы первое сделали, чтобы изменить ситуацию на Востоке Украины?

***Леонид Кравчук***: Если бы я был президентом, первое, что я бы сделал, я бы поехал в Москву к Путину.

***Анна Соусь***: И что бы ему сказали?

***Леонид Кравчук:*** Я бы ему сказал то, что я вам говорил, только более точно и с фактами. Мы вдвоем решим эту проблему, чтобы люди не умирали ... Я бы ему сказал, что ваша философия русского мира - это фикция, потому что в философии русского мира написано -- помогать и защищать русскоязычных и этнических россиян, а вы делаете все, чтобы их защищать путем убийства, потому что на Востоке Украины гибнут и россияне, и украинцы, и сыновья России, и сыновья Украины, славяне, этнические русские и русскоязычные. Если философия русского мира означает, что того, кто не согласен, надо уничтожить, тогда это фашистская организация. И если мы этого не сделаем, то я сказал бы, что мы будем умирать на своей земле, вы можете нас уничтожить, но Украина никогда не будет вашей послушницей. Никогда. Это народ, который заслуживает исторического уважения.

Я предложил бы такой путь. Скажите, что вам в данном случае не подходит? С чем вы не согласны (хотя это весьма условно, так как мы сами определяем свою политику). но я хочу знать, с какой политикой Украины и почему вы не согласны? Давайте решим этот вопрос. Если нет, тогда мы обращаемся к мировой общественности, пусть она решает. Я бы с этого начал обязательно. И если вы растаскиваете нашу территориальную целостность, наш суверенитет, то никогда, если будет оставаться жив хоть один украинец, мы не согласимся с этим.

*(скарочана, пераклад з беларускай мовы)*

**Анна Соусь**
**www.svaboda.org**

АНТЫКАРУПЦЫЙНАЯ КАМПАНІЯ

*(пачатак на стр. 3)*

Зноў працытую Іназемцава: «У цэлым карупцыя дапамагае мільёнам расіян жыць значна прасцей, чым калі б ім супрацьстаяла тая ж маразматычная расійская дзяржава, ды яшчэ і непадкупная».

Пра ўзровень маразматычнай беларускай дзяржавы меркаваць не бяруся. Але жыццё простага беларуса ў квазірынкавай эканоміцы ператварылася б у сапраўднае пекла. Жорсткасць нашых законаў, як вядома, кампенсуецца неабавязковасцю іх выканання. Гэтая неабавязковасць і забяспечваецца за кошт асабістых сувязяў, г. зн. карупцыі.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**“Новы час”**

СПЫНЕННЕ ПРАЦЫ

# ДЗЯРЖАВА ДЛЯ НАРОДА?

**Яшчэ адна крызісная праява ў беларускай эканоміцы! З'явілася інфармацыя, што Мінскі аўтамабільны завод спыняе свой галоўны канвеер на 10 дзён.**

Рабочых адпраўляць у вымушаныя адпачынкі, заробак, і без таго змізарнелы, ім захаваюць на дзве трацiны. Якое прадпрыемства будзе наступным?

Між тым у краіне ўсчалася хваля скарачэнняў працоўных, якіх праз пэўны час могуць запісаць у “дармаеды”.

***Рух “За Свабоду” лічыць:***

“Абвешчаная мадэрнізацыя не дае і не прынясе чаканых вынікаў, бо трэба мяняць структуру эканомікі і форму ўласнасці. Цяпер, па сутнасці, мы бачым толькі выдаткоўванне грошай у новыя станкі ды патрабаванні прыгоннай дысцыпліны. Гэта псеўдамадэрнізацыя і застой, а не развіццё!

На пачатку 1990 гадоў у Беларусі былі адны з найлепшых шанцаў з усіх краінаў былога СССР, каб правесці паспяховае рэфармаванне сваёй гаспадаркі і інтэграваць яе ў сусветную эканоміку. Беларусь мела добрую базу як высокаіндустрыялізаваная дзяржава з дастаткова адукаванай і кваліфікаванай працоўнай сілай. На вялікі жаль, гэтыя шанцы былі змарнаваныя.

25 год таму жыхары суседняй Польшчы, крамы якой зіхацелі пустэчай, скуплялі ў Беларусі самыя розныя тавары. Сёння ўсё наадварот: беларусы дзясяткамі тысяч едуць у Беласток, Тэрэспаль ці Варшаву, каб набыць больш танныя прадукты, вопраткy ці бытавую тэхніку. Простыя лічбы: Польшча купляе газ па 330 долараў за кубаметр, Беларусь – па 134. Сярэдні (налічаны) заробак палякаў складае 1090 долараў, а беларусаў – 410.

Дыягназ відавочны: сённяшняя эканамічная мадэль няздольная гарантаваць нашым людзям дабрабыт і ўпэўненасць у заўтрашнім дні”.

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 30.03.2015 у 20.25**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.